www.nv-online.info

№ 7 (3748)

25 студзеня 2013 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ХТО КАГО?

# Упіраюцца...

*Пару тыдняў таму старшыня ўрада **Міхаіл Мясніковіч** агучыў прапановы па аптымізацыі структуры, колькасці і функцый дзяржаўных органаў. Але не так лёгка будзе скараціць уплывовыя ведамствы. Некаторыя ўжо выказалі нязгоду.*

Нагадаем, што прапанова ўрада наступная:

— функцыі Міністэрства гандлю мяркуецца размеркаваць паміж Мінэканомікі, Міністэрствам замежных спраў і іншымі ведамствамі;

— Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ліквідаваць, перадаўшы яго функцыі Міністэрству будаўніцтва і архітэктуры;

— Міністэрства па падатках і зборах уключыць у структуру Мінфіна.

Акрамя таго, было прапанавана ліквідаваць Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях і размеркаваць яго функцый паміж Мінадукацыі, Нацыянальнай акадэміяй навук, Мінэканомікі і галіновымі міністэрствамі. Аднак з гэтым не згодны сам старшыня ўрада, і зараз Дзяржкамнавукі адстойвае мэтазгоднасць свайго існавання перад Адміністрацыяй прэзідэнта.

У сваю чаргу, ужо вядома, што супраць прапаноў прэм'ер-міністра ўзбунтавалася Міністэрства па падатках і зборах. Ведамства не хоча далучацца да Мінфіна і лічыць неабходным захаваць існуючы самастойны статус міністэрства.

Аб гэтым заявіў першы намеснік міністра **Сяргей Налівайка.**

"Мы лічым, што ў самастойным статусе міністэрства будзе працаваць больш прадуктыўна і эфектыўна, — сказаў намеснік міністра. — На працягу апошніх гадоў усе даведзеныя міністэрству заданні выконваюцца і перавыконваюцца. Акрамя таго, вычляненне падатковай службы ў самастойнае міністэрства адбывалася не спантанна, а з улікам аб'ектыўнай рэальнасці, мэтазгоднасці такога рашэння. Калі нават казаць пра такія пераўтварэнні, то, на мой погляд, вельмі няўдала абраны момант. Цяпер ідзе гаворка аб скарачэнні дзяржапарату, і нам прыйдзецца скарачаць значную колькасць. Тонка наладжаная сістэма і так будзе перажываць змены. І гэты шлях трэба прайсці так, каб не страціць у якасці прадастаўлення паслуг, у якасці тых функцый, якія мы выконваем. Страціць і разбурыць вельмі лёгка, значна цяжэй ствараць. Таму нам трэба хоць бы без страты якасці, без страты ў эфектыўнасці выканання ўскладзеных функцый прайсці скарачэнне... Таму, на наш погляд, міністэрства адназначна павінна знаходзіцца ў тым статусе, у якім яно сёння. Такая праца будзе больш эфектыўнай, пісьменнай і канструктыўнай".

**ДАРЭЧЫ**

## *Гадзіннік Мясніковіча падаткавікоў не зацікавіў*

Нагадаем, што ў канцы мінулага года грымнуў скандал, звязаны з коштам гадзінніка старшыні Савета міністраў Міхаіла Мясніковіча. Журналісты сфатаграфавалі старшыню ўрада і потым высветлілі, што такі гадзіннік, як у яго, у магазіне швейцарскіх гадзіннікаў на сталічнай вуліцы Камсамольскай каштуе... больш за 37 тысяч долараў. Дзеля праўды скажам, што ў Еўропе яны дзешавейшыя — 25—30 тысяч. Але ці зарабляе старшыня беларускага ўрада столькі, каб насіць на руцэ сапраўднае багацце?

Адказу на гэтае пытанне так і няма. Падаткавікоў інфармацыя журналістаў не зацікавіла.

"Асабіста я гэты гадзіннік не бачыў і не магу нічога сказаць — дарагі ён ці не. Можаце мой сфатаграфаваць, калі кагосьці цікавіць, — гадзіннік "Прамень", якому ўжо 25 гадоў. Я іх таксама не дэклараваў нідзе!" — так на нядаўняй прэс-канферэнцыі адказаў на пытанне пра гадзіннік Мясніковіча начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах **Міхаіл Расолька**.

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## *Толькі сёння і заўтра*

***Так, толькі сёння і заўтра можна аформіць падпіску на "Народную Волю", з тым каб атрымліваць газету з 1 лютага. У каго была падпіска толькі на студзень — не спазніцеся зазірнуць на пошту ці ў любы спецыялізаваны падпісны пункт.***

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

ФОТАФАКТ

# Як у сярэднявеччы

## *Сям'я 20 гадоў жыве ў зямлянцы*

Тамара Байкова і яе муж Юрый пражылі ў зямлянцы ў лесе недалёка ад беларускай вёскі Юхновічы, на самай мяжы з Расіяй, каля 20 гадоў.

Яны адправіліся шукаць шчасця ў глухі кут Беларусі амаль адразу пасля развалу СССР, спадзеючыся, што іх справы пойдуць угару і часовая зямлянка з часам ператворыцца ў вялікі прыгожы дом, які можна будзе пакінуць дзецям. Аднак няма нічога больш пастаяннага, чым часовае. І хоць гаспадарка за 20 гадоў разраслася па крайняй меры настолькі, што Тамара і Юрый могуць самі забяспечваць сябе прадуктамі, мары аб доме засталіся толькі марамі.

Зімовы побыт сям'і Байковых — у фотарэпартажы агенцтва Reuters.











ЧУЛІ?

# Жыхары спаленай вёскі шукаюць справядлівасць

Пяць жыхароў спаленай вёскі Паўлавічы, што ўвайшла ў склад Першамайскага раёна Віцебска, у пошуках справядлівасці звярнуліся ў пракуратуру, суд і да гарадскіх чыноўнікаў.

Прычым шукаць справядлівасці выказалі гатоўнасць толькі пяць з дзевяці пацярпелых. Алена Каравіна кажа, што іншыя не тое што зусім не вераць у перспектыву гэтай справы, але папросту не ў стане з-за свайго ўзросту хадзіць па інстанцыях.

Нагадаем: летась 1 снежня на ўскрайку горада спалілі вёску Паўлавічы. Усё адбылося на вачах людзей.

Алена Каравіна, Мікалай Голубеў, Георгій Лабачоў, Таццяна Уліціна і Андрэй Салаўёў аб'ядналі свае намаганні супраць тых, хто аддаваў загады паліць пабудовы. Каб паўнавартасна звяртацца ў дзяржаўныя структуры, яны падрыхтавалі ўсе неабходныя дакументы, у тым ліку даведкі аб уплаце падаткаў на нерухомасць, на зямлю і г.д.



Зварот у пракуратуру Віцебска з просьбай расследаваць ганебны выпадак падалі таксама праваабаронцы. Адтуль яны атрымалі фармальную адпіску (маўляў, гэта не вашы дамы палілі, вы не маеце да справы ніякага дачынення), але зварот у Генеральную пракуратуру меў станоўчы вынік — праваабаронцаў запэўнілі, што сітуацыю разгледзяць на месцы па сутнасці. У выніку Мінск усё ж такі даручыў пракуратуры Першамайскага раёна Віцебска высветліць, наколькі законна дзейнічалі прадстаўнікі гарадскіх улад.

Алена Каравіна шчыра прызналася "Народнай Волі", што не надта верыць у поспех:

— Мы вырашылі дабівацца хаця б кампенсацыі за нашу знішчаную маёмасць. Мы не вельмі верым у поспех, бо самі ж улады і парушылі ўсё што толькі можна было, а мы ім на іх жа і скардзімся. Але ўсё ж спадзяёмся на лепшае. Ва ўсялякім разе трэба дабіцца, каб з іншымі такога не адбылося. Трэба зрабіць высновы з нашай трагедыі. І чыноўнікі павінны ведаць, што за ўсе свае дзеянні давядзецца адказваць.

"Народная Воля" падрабязна распавядала пра той дзікі выпадак на старонках газеты. Публікацыя выклікала шмат водгукаў. Рэакцыя чытачоў была даволі эмацыянальнай. Мы будзем сачыць за тым, як будуць далей развівацца падзеі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СОЛИДАРНОСТЬ

## *Хочу встретиться...*

*Евродепутат Марек Мигальский, который стал инициатором кампании солидарности с двумя политическими заключенными — Дмитрием Дашкевичем и кандидатом в президенты на выборах 2010 г. Николаем Статкевичем, обратился к Министерству иностранных дел с просьбой разрешить ему встречу с этими оппозиционерами в местах заключения.*

Депутат Европейского парламента подчеркнул, что является заместителем члена Делегации Европарламента по отношениям с Беларусью и крайне заинтересован ситуацией вокруг белорусских политзаключенных. Особенно его беспокоит судьба Николая Статкевича и Дмитрия Дашкевича, поскольку СМИ неоднократно информировали о том, что оппозиционеры преследуются тюремной администрацией, а также подвергаются давлению, изолированы от внешнего мира и содержатся в тяжелых условиях.

Г-н Мигальский отметил, что хочет встретиться с узниками совести, проверить условия их содержания, а также посмотреть на физическое и психическое состояние их здоровья.

ПАД ГРАДУСАМ

## *Маразы будуць мацнець*

*Уранку нядзелі, 27 студзеня, у Віцебску чакаецца да 29 градусаў ніжэй за нуль, у Мінску і цэнтры краіны — мінус 24.*

Сіноптыкі прагназуюць, што моцныя маразы затрымаюцца прыкладна да наступнага чацвярга, 1 лютага. Раней абяцалася, што яны аслабнуць трохі раней. Як прагназуюць сіноптыкі, мінімальныя тэмпературы наступных сямі дзён у Гомелі і Магілёве дасягнуць мінус 24, у Гродне — 21 градус марозу, у Брэсце — 18 градусаў ніжэй за нуль.

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

## *Кіраўнік Следчага камітэта Валянцін Шаеў учора правёў першую прэс-канферэнцыю.*

### У справе Піліпца хутка паставяць кропку

Тагачаснага старшыню Гомельскага гарвыканкама **Віктара Піліпца** ўзялі пад варту яшчэ ў верасні мінулага года. Як паведамляла раней "Народная Воля", чыноўніка падазравалі ў махінацыях з кватэрамі — ён дапамагаў знаёмым і родным набываць жылплошчу па коштах, у шмат разоў ніжэйшых за рыначныя. Вядома, што разам з былым "мэрам" за краты трапілі чатыры яго калегі з гарвыканкама і шэраг іншых асоб.

*"У якасці падазроных і сведак да справы прыцягнуты некаторыя сваякі і знаёмыя Піліпца,* — паведаміў "Народнай Волі" Валянцін Шаеў. — *Пэўныя затрымкі ў гэтай справе звязаны толькі з тым, што Следчы камітэт правярае, як размяркоўвалася жыллё, што будавалася па дзяржпраграме ў 2010—2011 гадах. Ніякіх цяжкасцяў з гэтай справай няма"*.

Вядома, што Піліпец зараз знаходзіцца пад вартай, а вось дзе канкрэтна яго ўтрымліваюць, старшыня Следчага камітэта паведаміць адмовіўся.

*"Я не думаю, што гэтая інфармацыя важная, таму не буду адказваць на гэтае пытанне"*, — адказаў Шаеў.

### Маці двух памерлых дзяцей дагэтуль не знайшлі

Перад Новым годам беларусаў шакіравала страшная навіна аб тым, што ў звычайнай салігорскай кватэры знайшлі трупы двух непаўнагадовых дзяцей. А вось маці гадавалага хлопчыка і трохгадовай дзяўчынкі бясследна знікла. Журналісты прадставілі адразу некалькі версій, сярод якіх была інфармацыя і аб тым, што жанчыну маглі выкрасці.

*"Жанчыну дагэтуль не знайшлі, і асноўная версія зараз у тым, што менавіта яна здзейсніла забойства,* — распавёў кіраўнік Следчага камітэта. — *Зараз мы расследуем чатыры падобныя справы. Між тым ніякіх агульных тэндэнцый, якія сведчылі б аб тым, што ў грамадстве адбываюцца незразумелыя працэсы, мы не знаходзім. Відавочна, што нагодамі для злачынства сталі сямейныя канфлікты.*

*У трох выпадках мы маем сведчанні таго, што маці пакутавалі на розныя формы псіхозаў і звярталіся да ўрачоў-псіхіятраў. А ў адным — маці нават мела дыягназ "актыўная шызафрэнія"*.

### Кацарэнка вінен мільёны

Хутка, верагодна, будзе пастаўлена кропка і ў гучнай справе старшыні Назіральнага савета ААТ "Тэхнабанк" Уладзіслава Кацарэнкі. Па даных Следчага камітэта, за пяць з паловай гадоў ён правёў незаконных фінансавых аперацый на суму 416,9 мільярда рублёў. Пры гэтым банкір недаплаціў падаткаў на суму каля 7 мільярдаў рублёў. Па крайняй меры з такімі разлікамі Следчы камітэт рыхтуе справу да перадачы ў суд.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 СТУДЗЕНЯ 2013 г.

РЭХА КАНФЛІКТУ

## Ад рэдакцыі

Чытачы, напэўна, не забылі нашу публікацыю ад 19 кастрычніка 2012 года **"Ці адновяць Васіля Якавенку ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў?"**. У памяці застаецца гучны канфлікт паміж кіраўніцтвам саюза і старшынёй рэвізійнай камісіі Васілём Якавенкам. Ніхто і падумаць не мог, што тыя, хто павінен моцай усяго свайго таленту адстойваць дэмакратыю, свабоду слова, выключаць са складу СБП таго ж прынцыповага і ваяўнічага В.Якавенку. За ягонае аднаўленне ў складзе саюза падпісалі і падалі хадайніцтва вядомыя літаратары і навукоўцы: **Сцяпан Лаўшук**, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, **Леанід Яўменаў**, паэт, доктар філасофскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, **Арсень Ліс**, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, **Адам Мальдзіс**, доктар філалагічных навук, прафесар, **Аляксей Рагуля,** прафесар культуралогіі, выдатнік народнай асветы, **Лідзія Савік**, прафесар кафедры беларускай філалогіі БДУ культуры, **Анатоль Верабей**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, **Уладзімір Паўлаў**, паэт, празаік, перакладчык, сакратар СПБ у 1980-я гады, **Уладзімір Дамашэвіч**, пісьменнік, лаўрэат літаратурнай прэміі імя І.Мележа, **Ніна Загорская**, паэтэса, **Эрнест Ялугін**, пісьменнік, **Уладзімір Халіп,** паэт, драматург, **Галіна Каржанеўская**, паэтэса, драматург, крытык, **Лідзія Арабей**, пісьменніца, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, **Сяргей Панізнік**, паэт, перакладчык, **Іван Пташнікаў**, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Коласа...

І вось у адказ на тую публікацыю ў рэдакцыю прыйшоў ліст за подпісам выканаўчага сакратара ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" С.А.Паўкштэла. У ім, праўда, ні слова пра хадайніцтва паважаных пісьменнікаў, адно паведамляецца, што разглядзелі заяву В.Якавенкі аб аднаўленні яго ў саюзе і... Няма сэнсу пераказваць далейшы змест ліста, лепш, шаноўныя чытачы, прачытайце, тым больш што аб гэтым просіць яго аўтар. Прачытайце каментарый В.Якавенкі, які ён зрабіў пасля таго, як рэдакцыя азнаёміла яго з лістом С.А.Паўкштэла.

Рэдакцыя газеты "Народная Воля" не лічыць мэтазгодным быць суддзёй у канфлікце, што зацягнуўся, але чытачы будуць праінфармаваны пра яго канчатковыя вынікі.

# Азнаёмце чытачоў...

*Сп.Сярэдзічу І.П.*

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

У сувязі з лістом ад 26 лістапада 2012 г. (№01-08/190) і публікацыяй у Вашай газеце за 19 кастрычніка г.г. "Ці адновяць Васіля Якавенку ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў?" паведамляем, што 28 лістапада адбылося пасяджэнне Рады ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", на якім была разгледжана заява В.Ц.Якавенкі аб аднаўленні яго ў шэрагах ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".

На пасяджэнні Рады ГА "СБП" прысутнічалі 22 сябры Рады (з 35-і): Б.Сачанка (старшыня Рады), А.Пашкевіч (першы намеснік старшыні), Э.Акулін (намеснік старшыні), члены Рады В.Аксак, У.Арлоў, І.Багдановіч, А.Бароўскі (старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА "СБП"), Г.Бураўкін, А.Вярцінскі, Г.Далідовіч, Л.Дранько-Майсюк, Г.Дубянецкая, А.Жук, В.Жыбуль, С.Законнікаў, В.Зуёнак, Г.Каржанеўская, І.Мельнічук (старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення ГА "СБП"), У.Някляеў, А.Разанаў, М.Скобла і К.Цвірка.

Па пытанні аб заяве В.Якавенкі з просьбай аб аднаўленні яго ў шэрагах ГА "СБП" выступілі запрошаны на пасяджэнне В.Якавенка, а таксама А.Вярцінскі, Б.Сачанка, В.Зуёнак, Г.Бураўкін, А.Пашкевіч, У.Някляеў, А.Разанаў, У.Арлоў, Г.Каржанеўская, А.Бароўскі і іншыя.

Шляхам адкрытага галасавання ("за" — 18, "устрымаўся" — 1, "супраць" — 0) Рада ГА "СБП" вырашыла "не аднаўляць В.Ц.Якавенку ў шэрагах ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", адкладваючы вырашэнне гэтага пытання да наступнага пасяджэння Рады ГА "СБП" — пры ўмове поўнага абвяржэння В.Якавенкам у сродках масавай інфармацыі сваіх паклёпніцкіх публікацый, якія тычыліся кіраўніцтва, Рады і ўсяго ГА "СБП".

Паколькі "Народная Воля" неадназова звярталася да згаданай тэмы, просім Вас азнаёміць з гэтай інфармацыяй сваіх чытачоў.

**С.А.ПАЎКШТЭЛА,**
**выканаўчы сакратар ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".**

# Перакулены свет Парнаса,

## *альбо Чаму я спадзяюся на аднаўленне ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў*

Дзіўны адказ пераслала "Народнай Волі" выканаўчы сакратар ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" С.А.Паўкштэла. Каб чытачам было больш зразумела, як разглядалася мая просьба аб аднаўленні ў шэрагах творчага Саюза, дазвольце мне ўзгадаць усё па парадку.

...Невялічкая прадаўгаватая зала. Заходзяць і рассаджваюцца па радах самавітыя і вядомыя ў літаратурным абыходку асобы. Некаторыя вітаюцца са мной, яны ўсё яшчэ лічаць мяне за свайго прыяцеля, хоць год таму, не запрашаючы сюды, на пасяджэнне рады, выключылі са свайго асяродку як д'ябла, які муціць ваду. Зрабілі тое ў інтарэсах аднаго ці двух кіруючых таварышаў. Чарговы з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў (10.12.2011 г.) не меў пэўнасці па гэтым пытанні, і Мінюст апратэставаў маё выключэнне. Тады ўжо ў красавіку 2012 года зацятыя кіраўнікі, якія памяняліся ролямі, накшталт Пуціна і Мядзведзева, дамагліся ад рады паўторнага майго выключэння.

Я прыняў той учынак прадстаўнікоў рады за грубы пралік і, падаўшы заяву, цяпер даваў ім шанц выправіць памылку. Нарэшце, стаю твар у твар перад імі. Галовы ў некаторых апушчаныя, адзін дык наогул пачуваў сябе няўтульна і збег, каб не сустракацца са мною вачыма.

У абмеркаванні заявы тон задае Б.Сачанка (Пятровіч), пляменнік ранейшага празаіка Барыса Сачанкі. Я павінен пакаяцца ў тым, што вынес канфлікт паміж рэвізійнай камісіяй і былым старшынёй саюза А.Пашкевічам за межы пісьменніцкай арганізацыі. Вінюся... На з'ездзе ж мяне дапякалі, уласна, публікацыяй артыкула **"Дзе схаваны д'ябал, або Пра некаторыя хібы ў кіраўніцтве Саюза беларускіх пісьменнікаў"** у газеце "Літаратура і мастацтва" (24.10.2010 г.). Зрэшты, да таго часу ўжо быў надрукаваны опус **"Мільянеры-жабракі, альбо Дзіўнае існаванне Саюза беларускіх пісьменнікаў"** у "Народнай Волі" (07.09.2010 г.), аўтарамі якога з'яўляліся Э.Ялугін, В.Хурсік і А.Данільчык. Фактычна ў абодвух матэрыялах размова вялася пра адно і тое ж.

Аднак на гэтым пасяджэнні пасля зробленага Б.Сачанкам зачыну ў наступленне кінуўся А.Вярцінскі, які задаў некалькі экзальтаваных, але, па праўдзе кажучы, няўцямных пытанняў. Больш акрэсленым было: чаму я не праяўляў актыўнасці ў саюзе і, маўляў, дзе быў, калі саюз страчваў сваю маёмасць? Вось, напрыклад, яны з Пашкевічам і іншымі прысутнымі тут гераічна і мужна выносілі з Дома літаратара партрэты шаноўных пісьменнікаў-класікаў, а мяне там не было...

Адказваючы, я свядома не завастраў пытанні і не пераводзіў дыялог на "алаверды": а дзе быў ён, шаноўны ветэран, калі вынесеныя імі каля сотні мастацкіх палотнаў аказаліся ў балоце? І ўжо ці не дадало б ім сапраўднага гонару, калі б з тымі партрэтамі або без іх яны арганізавалі сур'ёзную пратэстную акцыю?.. Тым часам не хто іншы, а я, ахвяруючы сваім часам і сродкамі, ратаваў скарб — наняў бартавую машыну, пагрузіў карціны класікаў, а заадно і каля трох тысяч аслізлых ад вільгаці кніг і завёз іх у Ліду; карціны перадаў у Гісторыка-мастацкі музей на догляд і рэстаўрацыю. Калі б раптам багіня правасуддзя ўзялася ўзважваць учынак Вярцінскага і мой, то шалі, напэўна, пацягнулі б у мой бок...

Выступоўца ж А.Пашкевіч, як і раней (на пасяджэннях рады і з'ездзе), завучана паставіў усё з ног на галаву: гэта я вінаваты, што, выконваючы статутныя абавязкі і не знайшоўшы падтрымкі ў рады, а наадварот — патуранне яму, выйшаў за межы саюза шукаць рады. Пашкевіч апускаў прычыну, **а прычына была ў ператварэнні ім творчага аб'яднання ў прыватную лавачку і нежаданні даць рэвізійнай камісіі справаздачу аб сваёй фінансавай і арганізацыйнай дзейнасці.** Во гэта і стала вытокам усяго!..

Паэт Г.Бураўкін, узяўшы слова, паспрабаваў змякчыць атаку агрэсіўнага крыла. Ён адзначыў маю прынцыповасць, настойлівасць, пісьменніцкую і публіцыстычную не малую такі годнасць і жаданне застацца ў гэтым творчым саюзе, што варта б цаніць, але тут жа падтрымаў і прапанову — **пакаяцца.** Дзіўныя людзі! Я тут жа выпаліў, што перад тым, як спаліць чэха Яна Гуса, яго ўгаворвалі таксама пакаяцца; у цеснаватай зале зашалясцела ажыўленне; дзівіліся: маўляў, які яшчэ гусак перад імі! А вось сярэднявечны Ян Гус сапраўды лічыў, што кожны, хто шануе Хрыста, павінен шукаць праўду, нават рызыкуючы дабрабытам, спакоем і жыццём.

Іхні ліст у рэдакцыю складзены з вялікім апломбам і фарсам. Не памятаю, напрыклад, каб на тым пасяджэнні выступалі Зуёнак, Някляеў, Разанаў, Арлоў, Каржанеўская, Бароўскі, якія пазначаны выступоўцамі. Той-сёй, праўда, кідаў слова-паўслова. Затое рада дружна прагаласавала за маё *п а к а я н н е* як вялікую ачышчальную чыннасць для мяне.

Устрымаюся параўноўваць яе з інквізіцыяй, адно адзінадушша здзіўляла. Між тым згадваўся выпадак... Калі ў сярэдзіне 1970-х пасля кандыдацкага тэрміну мяне прымалі ў партыю, рэдактар тоўстага літаратурнага часопіса "Полымя", дзе я тады працаваў, патрабаваў ад мяне пакаяцца, а іншымі словамі — узяць на сябе віну, у тым, у чым я ніякай правіны не меў. Чалавек складаны, захарактараны, К-ка проста гатовы быў мяне зламаць, каб паказаць, што ён у накаце на мяне не памыляўся. У аснову ж канфлікту легла непаразуменне — шэльма В-гін вынес на людзі рэдакцыйную тайну пра востры крытычны матэрыял, які павінен быў ісці ў друк праз мае рукі. Узніклі пытанні... І вось двойчы па чатыры гадзіны засядае партбюро Саюза пісьменнікаў, у склад якога ўваходзяць адметныя асобы, гавораць па крузе — раз, другі... абы гаварыць і пры гэтым не пакрыўдзіць К-ку, члена бюро і рэдактара "Полымя", а той катэгарычна выступае супраць майго прыёму; вядома, тыя, хто засядаў, былі ягонымі сябрамі ці аўтарамі. Сакратар партбюро А.Кулакоўскі не мог дамагчыся ў спрэчках рашэння, ён, праўда, быў на маім баку. Чакалі прыходу (ужо на другое пасяджэнне) мудрага чалавека — І.Шамякіна. Той, нарэшце, прыйшоў, акінуў усіх позіркам вешчуна і сказаў, як звязаў: "Вось што... Гутарыў я з адным відным партыйцам, пераказваю літаральна ягоныя словы. Калі б на заводзе ў партыю прымалі рабочага, а начальнік цэха быў супраць, то, пэўна, яго не прынялі б. Так варта рабіць і тут".

Дзіўна, але і пасля выказвання вешчуна партбюро не прыняла рашэння — большасць устрымлівалася. Рашэнне прыняў сход, а той выпадак мне яскрава засведчыў, наколькі залежны наш брат-пісьменнік ад літаратурных газет і літаратурных часопісаў, ад іх уладароў-рэдактараў. Надрукавацца важна, каб чытачы цябе ведалі, а калі дадуць яшчэ і ганарар... Прывёў гэты прыклад нездарма, бо сёння Саюзам беларускіх пісьменнікаў кіруюць рэдактары, яны ж і ўплываюць на раду і маніпулююць ёю, чаго кожны з радаўцаў часам нават і не ўсведамляе, адно дзейнічае па прынцыпе хаўруса, спакваля спланаванага тымі, хто зверху.

Я між тым не анёл, мог і памыляцца, калі выступаў у друку з істотнымі прэтэнзіямі да таго ці іншага, адно "абвяргаць" самога сябе, як таго хочуць аўтары ліста ў рэдакцыю, не буду. Гэта павінен быў зрабіць у законным парадку той, на каго я ўзвёў "паклёп". А не зрабіў (ані ў друку, ані на з'ездзе), то і не перакладвай на мяне свой пачэсны абавязак. Рада ж на апошнім сваім пасяджэнні дамагалася ад мяне публічнага пакаяння, і я, сябры дарагія, шаноўныя мае пабрацімы, каюся. І вось у чым:

**1**.Далібог не хапіла сіл дамагчыся ад вёрткага і неадэкватнага кіраўніка саюза справаздачы аб фінансавай і арганізацыйнай дзейнасці і разам з тым урэгуляваць пытанне з падпарадкаваннем яго Статуту СБП.

**2**.Каюся, што надрукаваў артыкул "Дзе схаваны д'ябал..." у "варожым" радзе СБП штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", а не ў газеце "Новы час", скажам. Яшчэ патлумачу ў дадатак: "д'ябал" у загалоўку не канкрэтная асоба, як тое нехта хоча ўспрымаць і ўспрымае, а метафара, бо гавораць жа: адшукаў, дзе сабака закапаны. І сабака — не чалавек.

**3**.Пэўна ж у тым яшчэ каюся, што не прасачыў і не прымусіў кіраўніка саюза своечасова выканаць рашэнне рады, прынятае ўлетку 2008 года, аб стварэнні (з сяброў ліквідаванага Беллітфонду) новай арганізацыі — правапераемніцы, каб атрымаць законныя грошы ад продажу Дома творчасці "Іслач" у суме 1,5 млн долараў. Заяўка ў ліквідацыйную камісію не была пададзена, тэрмін разлікаў даўно мінуў, грошы ляснулі.

**4**.Прыміце, урэшце, маё пакаянне і ў тым, што не прапанаваў рэвізійнай камісіі СБП абвясціць аб сваім самароспуску ў сітуацыі, калі высілкамі самазадаволенага кіраўніцтва і рады яна, уласна, была ператворана ў рудыментарны орган, зусім непатрэбны. Вось калі мы прыдбалі б спакой — тады былі б і авечкі цэлыя, і ваўкі сытыя!

**5**.Таму і даводзіцца каяцца, што не абышоў кучу г...на, а падключыў да высвятлення абставін дзяржаўныя органы.

Каюся, і няхай мне даруецца!

Няхай даруецца радзе, што замест лаўкача і пярэваратня яна выключыла са складу Саюза беларускіх пісьменнікаў чалавека, які больш чым хто дбаў пра саюз!

Як вядома, пісьменнікі чакаюць перамен у грамадстве, і рана ці позна, але яны з'явяцца. Вось толькі страчанае літаратурнымі творцамі ў складаных абставінах жыцця і выжывання сумленне больш не вернецца.

Застаюся пры сваіх перакананнях і спадзяюся на вяршэнне справядлівасці: аднаўленне ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

**Васіль ЯКАВЕНКА.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ



# Оскар Марыкс — гонар Беларусі

*Народны мастак Беларусі Оскар Марыкс быў аддана закаханы ў тэатр, меў да яго асаблівае пачуццё, якое на працягу ўсяго жыцця натхняла майстра на эксперыменты.*

Марыкс не быў этнічным беларусам — у яго славацкія карані. Між тым за сваё доўгае і плённае творчае жыццё ён палюбіў нашу краіну і стварыў шмат цудоўных вобразаў зямлі, якая стала яго другім домам.

*"Марыкс прысутнічаў на кожным спектаклі, на кожнай рэпетыцыі,* — выказалася дырэктар Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі **Зінаіда Кучар** падчас прэзентацыі альбома, прысвечанага класіку беларускай сцэнаграфіі. — *Займаючыся пастаноўкай аднаго і тога ж спектакля ў другім тэатры, ён не паўтараўся ніколі. Гэта чалавек, які стварыў новае разуменне сцэнаграфіі".*







Сапраўды, Оскар Марыкс першым у Беларусі асвоіў трохмернае вымярэнне дэкарацый. Можна сказаць, што гэтая тэхналогія была правобразам сучаснага 3D. Дарэчы, першым варыянтам трохмернага спектакля была пастаноўка "Кастусь Каліноўскі".

Выхад і прэзентацыя альбома "Оскар Марыкс" (аб творчым шляху знанага тэатральнага мастака Беларусі) прымеркаваны да дваццацігоддзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Славацкай Рэспублікай і Беларуссю. Такім чынам альбом аб першым беларускім сцэнографе стаў своеасаблівым падарункам беларускаму народу.

**Вольга КУЗЬМІНА.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Андрэй Гайдукоў сустрэўся з адвакатам*

***Цікава, чым скончылася дзіўная крымінальная справа па артыкуле "Здрада дзяржаве", узбуджаная супраць хлопца, які працаваў звычайным рабочым на "Нафтане". Шчыра кажучы, я ніяк не магу зразумець такую бязглуздзіцу. Ну якія дзяржсакрэты мог выдаць просты рабочы?***

**Міхаіл Васілеўскі,**
**г.Мінск.**

Справа, пра якую піша наш чытач, не толькі не скончылася, але набірае абароты. Днямі Андрэй Гайдукоў сустрэўся з адвакатам у следчым ізалятары КДБ у Мінску. Па словах яго маці Вольгі Гайдуковай, трымаецца хлопец нармальна, выглядае добра, са здароўем праблем не мае, атрымаў пасылку ад родных.

Па звестках маці, ніякіх следчых дзеянняў з яе сынам у апошні час не праводзіцца. Яна кажа, што пазіцыя Андрэя не мяняецца — ён не прызнае сваёй віны.

У той жа час следства ніякай бязглуздзіцы ў сітуацыі не бачыць. 23-гадовы Гайдукоў абвінавачваецца ў здрадзе дзяржаве ў форме вядзення агентурнай дзейнасці.

— У яго сваё меркаванне, ён у апазіцыі. Гэта ўсё, а якая віна?! Ніхто з нашага бліжэйшага атачэння і наогул ніхто з разважных людзей, па-мойму, у гэта не верыць, — гаворыць маці Андрэя. — Гэта проста смешна. Але што там "лепяць", мы не ведаем. Віну сваю ён не прызна**е** і не прызн**а**е. Мы, бацькі, не сумняваемся ў тым, што ён не вінаваты.

КДБ раней заяўляў, што Гайдукоў быў затрыманы ў момант закладкі тайніка са звесткамі палітычнага і эканамічнага характару, якія цікавяць замежныя спецслужбы.

Гайдукоў працаваў на Наваполацкім нафтаперапрацоўчым заводзе. Адначасова займаўся грамадскай дзейнасцю. Быў адным са стваральнікаў "Саюза маладых інтэлектуалаў". Падчас прэзідэнцкіх выбараў уваходзіў у каманду Андрэя Саннікава. Па крымінальнай справе ў якасці падазронага таксама праходзіць сябра Гайдукова і ўдзельнік "Саюза маладых інтэлектуалаў" Ілля Багданаў.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Вбухали деньги в рост убытков

Государственная поддержка деревообрабатывающей промышленности за последние три года составила триллион рублей, но убытки по концерну "Беллесбумпром" возросли в 30 раз. Об этом заявил председатель Комитета государственного контроля Александр Якобсон на заседании коллегии ведомства.

На заседании рассмотрены результаты проверки эффективности использования мер государственной поддержки, реализации инвестиционных проектов, развития товаропроводящей сети предприятиями концерна "Беллесбумпром". Причем эта проверка проводилась совместно с Генеральной прокуратурой.

Как сообщил Александр Якобсон, провалены инвестпроекты, фактически заморожены вложенные в модернизацию деньги, в том числе валютные в объеме более 0,5 миллиарда долларов. Меры по исправлению ситуации в том объеме, в каком это необходимо, не приняты.

Из года в год концерном не обеспечивалось выполнение прогнозных показателей, в том числе по объемам производства, рентабельности, внешней торговли. Наряду с этим растут складские запасы готовой продукции. За 9 месяцев 2012 года они увеличились более чем в 2 раза к аналогичному периоду предыдущего года. Это свидетельствует о снижении конкурентоспособности продукции, подчеркнул Александр Якобсон. Он также указал на другие негативные факты. В частности, на неудовлетворительное финансовое состояние предприятий. За 11 месяцев 2012 года из 52 организаций концерна убыточными были 10. "А общая сумма чистых убытков составила 155 миллиардов рублей и по сравнению с 2011-м — прислушайтесь только — увеличилась в 30 раз", — подчеркнул Александр Якобсон.

Изменить ситуацию коренным образом может только комплексная модернизация. Она и была начата в 2007 году. К настоящему времени новые производства уже должны были бы работать и давать отдачу. "Но сегодня ситуация другая — строительные площадки превратились в долгострой", — констатировал председатель КГК. По его словам, все это время руководство концерна было озабочено обоснованием сроков переноса завершения инвестпроектов. Кроме того, до предприятий доводились якобы объективные показатели, в том числе для некоторых предприятий они были ниже 100%, а рентабельность — со знаком "минус". "Где такие чудеса еще можно увидеть?" — задал риторический вопрос Александр Якобсон.

Он также выдвинул претензии и к местным органам власти, которые не оказали должного влияния на ход модернизации предприятий концерна "Беллесбумпром". Свою лепту в срыв сроков реализации инвестпроектов внесли и проектные, строительные организации. По мнению председателя КГК, этот вопрос сегодня требует детального рассмотрения, от его решения во многом зависит выполнение поручений. При посещении главой государства ОАО "Витебскдрев" было обещано завершение работ к 1 марта. Но сегодня все идет к срыву этого срока, заметил Александр Якобсон. Для своевременного завершения работ необходимо осваивать более 100 миллиардов ежемесячно, в то же время в ноябре—декабре 2012 года среднемесячное выполнение не превысило 9 миллиардов.

Одним словом, и начальство было на месте, и контролеры работали, и все пеклись об эффективном использовании государственных средств. Но у семи нянек дитя оказалось не только без глаза, но и неживое почти.

**Олег СНОВ.**

### КСТАТИ

## На предприятиях средняя зарплата — 3,7 миллиона рублей, у председателя концерна — почти 18 миллионов

Как должна вознаграждаться подобная работа? Кто-то скажет, что это должен решать суд. Но на деле об уровне зарплат руководителей концерна, которые провалили все что можно, многим остается только мечтать. За 2010-й, 2011-й и 9 месяцев 2012 года среднемесячная заработная плата работников аппарата концерна в два раза превышала среднемесячную зарплату в целом по организациям концерна. Так, среднемесячная зарплата по аппарату Беллесбумпрома в 2012 году составила 7,3 миллиона рублей, в целом по организациям концерна — 3,7 миллиона рублей. Средняя месячная зарплата председателя концерна за 9 месяцев 2012 года составила 17,8 миллиона рублей.

Напомним, что до ноября 2012 года концерн "Беллесбумпром" возглавлял Владимир Шульга. Однако во время посещения предприятия "Ивацевичидрев" Александр Лукашенко распорядился снять его с должности и перевести на работу на ивацевичское предприятие.

РЕГИОН

## *В Гомеле ввели запрет на катание с горок в центральном городском парке*

Теперь за эту забаву можно получить штраф от 1 до 5 миллионов белорусских рублей.

Ежегодно в зимний период здесь собирались любители экстрима — ведь крутизна рельефных спусков впечатляет. Однако вместе с тем велика вероятность сломать себе что-либо или даже свернуть шею. Таблички, запрещающие катание с гор, никого не останавливали.

Только в этом месяце серьезные травмы на горке получили 10-летний школьник, две девушки, молодая пара. Врачи зафиксировали у них переломы, черепно-мозговые травмы. Дело в том, что рельеф парка достаточно сложный и, скатываясь с ледяных горок, люди нередко врезаются в скамейки, деревья, а то и в гуляющих пенсионеров.

